Ідэі для Беларусі №2
НАРОДНАЯ ПРАГРАМА
www.prahrama.by

# Прапановы да мясцовых выбараў

**Стартаваў чарговы, прымеркаваны да мясцовых выбараў 23 сакавіка 2014 году, этап «Народнай праграмы» – ініцыятывы па выпрацоўцы «дарожных мапаў» рэформаў у розных галінах, якія складаюцца з дапамогай экспертнага і грамадскага абмеркавання.**

У выніку сацыялагічнага апытання на замову Руху «За Свабоду» былі вызначаны восем праблемных тэмаў, якія хвалююць грамадзян Беларусі – патэнцыйных выбаршчыкаў. Гэта паводле працоўных назваў – «**Працэдура і ўмовы прыватызацыі горадаўтваральных прадпрыемстваў**»; «**Якім чынам павінны прымацца рашэнні аб будаўніцтве шкодных вытворчасцяў?**»; «**Захады па павышэнні якасці паслуг у галіне ЖКГ**»; «**Ці варта абіраць кіраўнікоў выканаўчай улады адміністратыўна-тэрытарыяльных адзінак Беларусі усеагульным галасаваннем жыхароў гэтай адзінкі?**»; «**Рэформа сістэмы сярэдняй адукацыі**»; «**Неабходныя меры па развіцці прыватнага прадпрымальніцтва**»; «**Праблемы энергазберажэння**»; **Прыватная ўласнасць на зямлю**».

Эксперты па кожнай з гэтых тэмаў рыхтуюць свой аналіз сітуацыі ў адпаведнай галіне і прапановы па рэфармаванні. Пяць тэмаў ужо выкладзеныя на сайт ініцыятывы prahrama.by для абмеркавання ўсіх зацікаўленых асобаў. Адбыліся круглыя сталы з удзелам іншых экспертаў.




Апрача інтэрнет-абмеркаванняў і экспертных круглых сталоў, выдаецца бюлетэнь, другі нумар якога вы цяпер трымаеце ў сваіх руках. Бюлетэнь дасылаецца ў профільныя рэспубліканскія і мясцовыя ведамствы, а таксама іншым прадстаўнікам улады. Услед за тэмамі «Прыватная ўласнасць на зямлю» і «Выбарнасць мэраў» ў бюлетэні №1 гэтым разам выданне прысвечана школьнай адукацыі і шкоднай вытворчасці.

На канчатковым этапе тэзісныя прапановы па згаданых праблемах увойдуць у праграмы кандыдатаў у мясцовыя Саветы дэпутатаў. Мяркуецца, што да выбаршчыкаў, выкарыстоўваючы планы рэформаў «Народнай праграмы» з лакальнай адаптацыяй, звернуцца бліжэйшымі месяцамі каля 270 кандыдатаў.

Першы намеснік Руху «За Свабоду», каардынатар «Народнай праграмы» **Юрась Губарэвіч** кажа, што яна не ёсць платформай толькі для кандыдатаў, блізкіх да Руху ці партнёрскіх структур: *«Народная праграма» адкрытая і даступная для выкарыстання ўсім ахвотным, хто стаіць на рэфармісцкіх пазіцыях. Напрыклад, на парламенцкіх выбарах 2012 году «Народная праграма», дакладней распрацаваныя ў яе межах каля 30 накірункаў, стала грунтам для праграмаў 49 кандыдатаў у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў – то бок, на палове выбарчых акругаў».*

*«Мы разлічваем на тое, што кандыдаты, якія скарыстаюцца напрацоўваннямі «Народнай праграмы», будуць мець магчымасць на якасным экспертным узроўні даваць адказы на пытанні сваіх выбарнікаў. Тым самым яны павысяць свой аўтарытэт у вачах выбарнікаў, і, натуральна, атрымаюць большую падтрымку»*, – падкрэслівае Юрась Губарэвіч, які дарэчы, у свой час перамагаў навыбарах у Белаазёрскі савет дэпутатаў.

*«Трэба дэманстраваць, што ёсць пазітыўная альтэрнатыва. І для гэтага прыдатныя і мясцовыя выбары, і прэзідэнцкія выбары, нават калі няма падліку галасоў. Людзі павінны пераканацца, што ёсць на каго паставіць»*, – кажа кандыдат у прэзідэнты на выбарах-2006, былы намеснік старшыні Гродзенскага гарвыканкаму **Аляксандр Мілінкевіч**.

► P.S. Ініцыятары "Народнай праграмы" звяртаюцца да ўсіх зацікаўленых асобаў далучацца да абмеркавання самых розных тэмаў на сайце prahrama.by. Ахвотныя да ўдзелу ў круглых сталах разам з экспертамі могуць пісаць на гэты конт на info@pyx.by ці патэлефанаваць на нумар (+37517)2808863. Пошта: 220005, Мінск, а/с 148. Давайце разам працаваць над планамі рэформаў для лепшай Беларусі.

# Шкодная вытворчасць і інтарэсы насельніцтва



**Як праводзіць экалагічную экспертызу, каб меркаванне народа было ўлічана? Свае прапановы выказваюць Юрась Меляшкевіч, які скончыў Беларускі дзяржаўны тэхналагічны ўніверсітэт па спецыяльнасці «Біяэкалогія», кіраўнік мінскага аддзялення Руху «За Свабоду», і Рыгор Фёдараў, які вучыўся на юрфаку БДУ па спецыяльнасці «Правазнаўства» і аспірантуры па кафедры экалагічнага і аграрнага права, старшыня грамадскага аб'яднання «Экадом».**

## Слуханні, каб пачулі

Той спосаб, у які рэалізаваная ў нацыянальным заканадаўстве Орхуская канвенцыя, не дазваляе забяспечыць удзел грамадскасці ў прыняцці рашэнняў на стадыі, калі адкрытыя ўсе шляхі (у тым ліку адмова ад праекта).

Асноўнай функцыяй грамадзянскіх слуханняў з'яўляецца інфармаванне зацікаўленай грамадскасці аб выніках ацэнкі ўздзеяння на навакольнае асяроддзе, але рэальных механізмаў, якія могуць паўплываць на прыняццё тых ці іншых рашэнняў, у выглядзе працэдур няма. Асаблівa варта заўважыць, што самі праекты, якія праходзяць працэдуру грамадскіх слуханняў, а таксама экалагічную экспертызу, у далейшым у ходзе сваёй рэалізацыі часта патрабуюць зменаў і дапрацовак.

Дадзеныя змены і дапрацоўкі праходзяць ведамасныя ўзгадненні, але застаюцца невядомымі шырокай грамадскасці, а часта маштабы зменаў і дапрацовак закранаюць інтарэсы грамадскасці, паўплываюць уплыў на стан навакольнага асяроддзя.

Як выправіць сітуацыю?

**1.** Працэдура далучэння грамадскасці да прыняцця рашэнняў на этапе перадпраектных і праектных працаў. Павінен быць замацаваны абавязак абвяшчэння замоўшчыкам аб пачатку працэдуры экалагічнай экспертызы ў СМІ. Пры гэтым форма абвесткі павінна ўтрымліваць інфармацыю пра тое, якім спосабам зацікаўленая грамадскасць можа атрымаць усю неабходную інфармацыю пра дадзены праект.



**2.** Удзел у працы экспертных груп прадстаўнікоў грамадскасці на этапе правядзення экалагічнай экспертызы павінен быць забяспечаны на ўзроўні заканадаўства.

**3.** Працэдура грамадскіх слуханняў павінна быць абавязковай для ўсіх катэгорый аб'ектаў, якія маюцца ў спісе, пазначаным да Закона «Аб дзяржаўнай экалагічнай экспертызе» незалежна ад наяўнасці зваротаў зацікаўленай грамадскасці. Інфармацыя пра падобныя слуханні павінна загадзя (не пазней за два тыдні) публікавацца на старонках альбо дзяржаўнай прэсы, альбо інтэрнэт-рэсурсах адпаведных дзяржаўных органаў.

**4.** Усе змены ў праекце, якія паўплывалі на тэхналагічныя параметры працы праектаванага прадпрыемства ці аб'екта, павінны быць лімітаваныя па катэгорыях – аб'ём вытворчасці, выкіды, сцёкі і г.д. У выпадку істотнага змянення дадзеных параметраў праект павінен накіроўвацца на паўторныя грамадскія слуханні.

Дадзеныя прапановы не патрабуюць істотнага фінансавага ці арганізацыйнага ўнёску. Яны рэалізуюцца шляхам заканадаўчай ініцыятывы і ўнясення прапаноў па дапрацоўцы адпаведных раздзелаў Закона «Аб дзяржаўнай экалагічнай экспертызе».

Магчымыя плюсы і выклікі:

Да плюсаў трэба аднесці істотнае паляпшэння практыкі ўдзелу грамадскасці ў прыняцці рашэння. Трэба чакаць больш глыбокай прапрацоўкі прыродаахоўных мерапрыемства забудоўшчыкам, падвышэння узроўню інфармаванасці грамадства ў прыняцці рашэнняў па экалагічна важных пытаннях.

Да выклікаў трэба аднесці праблему з тым, што працэдуры патрабуюць дэталізацыі ў катэгорыях адказнасці за канкрэтныя крокі. Інакш можна будзе сутыкнуцца з паўторам сітуацыі, калі прагрэсіўнае па духу заканадаўства на практыцы рэалізуецца спосабам, далёкім ад дасягнення пастаўленых мэтаў.

**Юрась МЕЛЯШКЕВІЧ**

# Без «нулявога варыянту»

Орхуская канвенцыя, падпісаная Рэспублікай Беларусь, разглядае любых грамадзян або грамадскія арганізацыі, якія цікавяцца будаўніцтвам небяспечнага аб'екта, як паўнапраўнага ўдзельніка працэсу прыняцця экалагічных рашэнняў. І дзяржава абавязана забяспечыць удзел грамадскасці ў працэсе прыняцця экалагічных рашэнняў, калі плануецца будаўніцтва аб'ектаў пэўнага пераліку.

З іншага боку, нацыянальнае заканадаўства прадугледжвае толькі грамадскія абмеркаванні справаздачы аб правядзенні ацэнкі ўздзеяння на навакольнае асяроддзе (справаздачы аб АУНА), тобок грамадскія абмеркаванні з'яўляюцца часткай працэдуры АУНА.Правядзенне АУНА абавязковае толькі ў выпадках, прадугледжаных артыкулам 13 Закона «Аб дзяржаўнай экалагічнай экспертызе».

Але пералік такіх выпадкаў не ідэнтычны «орхускаму».

У некаторых выпадках нацыянальны пералік шырэйшы за пералік Канвенцыі. Такая сітуацыя не з'яўляюцца небяспечнай з пункту гледжання захавання правоў грамадскасці. Аднак у іншых выпадках пералік з нацыянальнага Закона істотна вужэйшы за пералік Канвенцыі – і такія сітуацыі прыводзяць да абмежавання права грамадскасці на ўдзел, да невыканання Беларуссю сваіх міжнародных абавязацельстваў і да канфліктных сітуацый на практыцы.

Тыповым прыкладам несупадзення спісаў з'яўляюцца праекты па здабычы торфу.



Згодна з нацыянальным заканадаўствам АУНА па такіх аб'ектах абавязковая, калі пляцоўка торфаапрацоўкі складзе як мінімум 250 гектараў. Аднак Орхуская канвенцыя патрабуе забяспечыць удзел грамадскасці, калі пляцоўка торфаапрацоўкі сягне за 150 гектараў.

У падобных сітуацыях грамадскасць можа звярнуцца ў мясцовыя органы выканаўчай улады (выканкамы) з просьбай правесці грамадскія абмеркаванні планаванага праекта, як таго патрабуе Орхуская канвенцыя. Зразумела, калі выкананне краінай патрабаванняў канвенцыі залежыць ад ініцыятывы грамадскасці, гэта не можа быць прызнана здавальняючай сітуацыяй.

Неабходна адзначыць, што ў цяперашні час плануецца ўнясенне змяненняў у артыкул 13 Закона «Аб дзяржаўнай экалагічнай экспертызе». Праект пакуль не прадстаўлены. Аднак прадэклараваная мэта змяненняў – «спрашчэнне адміністрацыйных працэдур» – дазваляе выказаць здагадку, што яны апынуцца на карысць эканамічных інтарэсаў на шкоду інтарэсам экалагічным.

Іншыя праблемы і патэнцыйныя канфлікты звязаны з момантам і парадкам правядзення грамадскіх абмеркаванняў.

На жаль, у Беларусі адсутнічае скрынінгавае (папярэдняе) грамадскае абмеркаванне небяспечных праектаў. Абмеркаванне справаздачы аб АУНА праводзіцца на стадыі, калі ініцыятарам праекта ўжо затрачаны значныя сродкі, а часам таксама падпісаны інвестыцыйныя дамовы. Таму ў справаздачы аб АУНА звычайна не разглядаецца «нулявы варыянт» (адмова ад ўзвядзення аб'екта), а прапановы грамадскасці па змене істотных параметраў праекта ўспрымаюцца ініцыятарам варожа. У выніку грамадскія абмеркавання замест забеспячэння ўдзелу грамадскасці ў працэсе прыняцця рашэння зводзяцца толькі да простага інфармавання грамадскасці.

Інфармаванне грамадскасці аб праекце арганізавана таксама неідэальна. Справаздача аб АУНА павінна быць змешчана ў Інтэрнэце, толькі калі ў заказчыка АУНА маецца свой сайт. Ні выканаўца АУНА, ні мясцовы выканкам (у якога заўсёды ёсць сайт) размяшчаць справаздачу на сваім сайце не абавязаныя.

Сход для абмеркавання справаздачы аб АУНА праводзіцца толькі ў тым выпадку, калі цягам 10 працоўных дзён пасля апублікавання паведамлення ў СМІ аб пачатку працэдуры грамадскіх абмеркаванняў грамадскасць паспее падаць заяву аб неабходнасці правядзення сходу.

На наш погляд, неабходна ўдасканаліць парадак правядзення грамадскіх абмеркаванняў справаздачы аб АУНА, уключыўшы ў яе папярэдняе абмеркаванне на ранняй стадыі, прывёўшы ў адпаведнасць спісы відаў дзейнасці з Канвенцыі і нацыянальнага заканадаўства, палепшыўшы спосабы распаўсюджвання паведамлення аб пачатку працэдуры грамадскіх абмеркаванняў і зрабіўшы правядзенне сходу абавязковым.

**Рыгор ФЁДАРАЎ**



PHOTO.BYMEDIA.NET

► На жаль, у Беларусі адсутнічае скрынінгавае грамадскае абмеркаванне небяспечных праектаў.

# Народ гаворыць!

**Вось якія экалагічныя праблемы хвалююць беларусаў у Свіслачы, Рудзенску, Самахвалавічах, Дзяржынску і Нясвіжы, паводле нашага вулічнага відэаапытання:**



*Вось узяць нашу Свіслач: і рака ёсць, і ракі няма. Адна гразь, адзін смурод.*



*Насобирал было грибочков неподалеку от химзавода – и попал в больницу с отравлением.*



*Химзавод многих беспокоит. Аллергия у многих, кашель, порой запах чувствуется неприятный от выбросов.*



*Машины, загазованность, не продохнуть.*



*Экалогія – не толькі тое, чым мы дыхаем, але і што ямо. Пажадана, каб было меней дабавак.*



*Болей за 20 гадоў прайшло пасля Чарнобыля, але праблемы засталіся.*



*Раз химия используется в сельском хозяйстве, то и экология страдает.*



*Зарослей борщевика много.*

# Крызіс і рэфармаванне беларускай школы

**Чаму падаюць прэстыжнасць прафесіі настаўніка і ўзровень ведаў выпускнікоў школ? Якія змены патрэбныя ў сістэме сярэдняй адукацыі? Пра гэта ў межах «Народнай праграмы» разважаюць Леанід Гаравы, дырэктар школы з 18-гадовым стажам, сябра Рады Руху «За Свабоду» з Гарадка, што на Віцебшыне, і Юрась Каласоўскі, настаўнік беларускай мовы і літаратуры Магілёўскай гарадской гімназіі №1, пераможца конкурсу «Настаўнік году Магілёўшчыны-2013.**



## Павелічэнне заробку і змяншэнне нагрузкі

Паводле звестак Рэспубліканскага інстытута кантролю ведаў, больш за траціну абітурыентаў, якія прынялі ўдзел у цэнтралізаваным тэставанні-2013, не змаглі пераадолець ніжні парог тэставага балу.

Пра ўзровень падрыхтоўкі патэнцыйных студэнтаў красамоўна сведчаць наступныя лічбы:

- 27164 абітурыенты не дацягнулі да прахаднога пункту на іспытах па адным вучэбным прадмеце
- 11454 – па двух вучэбных прадметах
- 2064 – па трох вучэбных прадметах.

Гэтыя негатыўныя вынікі – следства крызіснага стану школы, калі настаўнікі не хочуць працаваць за сімвалічную зарплату. За гады суверэннага існавання ніколі зарплата настаўніка не дасягала сярэдняй зарплаты ў краіне! Разам з тым вучні не матываваныя атрымліваць веды, бо людзі з дыпломам аб вышэйшай адукацыі атрымліваюць менш, чымсьці прадаўцы і будаўнікі.

Цяжкасці эканамічнага развіцця Беларусі цяпер ня пераадольныя на рэйках каманднa-арыентаванай дзяржаўнай эканомікі з нязначнай доляй прыватнай уласнасці. Бо



менавіта зыходзячы з эканамічнай сітуацыі было прынята рашэнне аб захаванні 11-гадовай сістэмы сярэдняй адукацыі, а таксама аб павелічэнні нагрузкі на настаўніка ў стаўцы да 20 гадзін.

Краевугольным каменем паляпшэння сітуацыі ў школьнай адукацыі з'яўляецца роля настаўніка – яго паспяховасць у жыцці, якая грунтуецца на матэрыяльным дабрабыце і аўтарытэце ў грамадстве. Таму ў накірунку рэформаў сярэдняй адукацыі трэба зрабіць:

1. Павелічэнне стаўкі заробку настаўніка першапачаткова да сярэдняй зарплаты па краіне, а потым на 20% вышэй;
2. Стварэнне прафесійных супольнасцяў па прадметах і правядзенне дыскусій аб рэформе адукацыі;
3. Ліквідацыя кантрактнай сістэмы ў краіне, у тым ліку і ў школе, і развіццёстыпендыяльнай сістэмы за інавацыйную працу;
4. Набор настаўнікаў з універсітэтаў з 25% выпускнікоў, якія маюць лепшыя паказчыкі;
5. Памяншэнне нагрузкі на настаўніка – не больш за пяць урокаў у дзень пры стаўцы ў 18 гадзін;
6. Прадастаўленне бясплатных пуцёвак (раз у чатыры гады) для падарожжаў у краіны Еўропы і свету;
7. Тэставанне настаўнікаў на веданне дзяржаўных моў і адной замежнай;
8. Прымяненне сучасных інфармацыйных тэхналогій у працы настаўніка ішкол;
9. Стварэнне сістэмы конкурснага прызначэння кіраўнікоў школ;
10. Стымуляванне працы настаўнікаў на роднай мове і правядзенне нацыянальных конкурсаў настаўнікаў-прадметнікаў (пачатковыя школа, гісторыя, геаграфія, беларуская мова) «З павагай да роднага слова»;

Працяг на с. 6

# Падвысіць заробак і разгрузіць

Працяг са с.5

**11.** Пераацэнка існуючых навучальных праграм і стварэнне новых, якія павінны быць накіраваны не на адаптацыю моладзі да існуючай рэчаіснасці, а на фармаванне крэатыўна-творчай асобы;

**12.** Пераход на 12-гадовую школьную сістэму адукацыі з профільнайадукацыяй на трэцяй ступені сярэдняй адукацыі (10-12 класы);

**13.** Увядзенне безадзнакавага навучання на першай ступені сярэдняй адукацыі;

**14.** Развіццё сеткі прыватных школ, якія маюць частковае бюджэтнае фінансаванне;

**15.** Аптымізацыя сеткі школ у сельскай мясцовасці і гарадах дзеля таго, каб у школах напаўняльнасць класаў была не больш за 20 чалавек;

**16.** Развіццё сістэмы рэальнага школьнага самакіравання з удзелам настаўнікаў, навучэнцаў і бацькоў;

**17.** Прадстаўленне фізічным і юрыдычным асобам права 1% падаткаў самастойна накіроўваць на развіццё адукацыі, культуры ці трэццяга сектару;

Для ажыццяўлення гэтай рэформы неабходныя наступныя ўмовы:

- Стварэнне канкурэнтнай эканомікі, якая базуецца на свабоднай канкурэнцыі розных формаў уласнасці;
- Павелічэнне долі прыватнай уласнасці да 70% у ВУП краіны;
- Пераадоленне крызісных з'яў у эканоміцы шляхам збавення яе ад датацыйнай залежнасці ад Расіі;
- Наяўнасць дэмакратычных працэдур змены ўлады, якія базуюцца на нявызначанасці вынікаў галасавання выбаршчыкаў;
- Памяншэнне бюджэтнай нагрузкі на сілавыя ведамствы, а таксама празмернай датацыі сельскай гаспадаркі;
- Развіццё конкурсаў адукацыйных ідэй у педагагічных супольнасцях;
- Папулярызацыя перадавога вопыту навучання ў кожным рэгіёне Беларусі;

Магчымымі цяжкасцямі з'яўляюцца дэградацыя сістэмы адукацыі і творчага патэнцыялу настаўнікаў пры аўтарытарным стылі кіравання; цяжкасці эканамічнага развіцця краіны ў трансфармацыйных перыяд і недахоп сродкаў; недахоп рэфармацыйнага патэнцыялу ў сістэме адукацыі;

Верагоднымі плюсамі могуць стаць атрыманне сістэмы сярэдняй адукацыі, адаптаванай да патрабаванняў сучаснасці, а гэта значыць, атрыманне выпускнікоў, гатовых эфектыўна ўключыцца ў працу для сябе і Беларусі; разняволенне творчага патэнцыялу настаўніка шляхам зняцця забарон і бюракратычнай пятлі ў паперапісальніцтве; ліквідацыя функцый, не ўласцівых педагагічнай дзейнасці; павелічэнне матэрыяльнага дабрабыту і магчымасці развіваць у сабе творчую асобу.

**Леанід ГАРАВЫ**

# Народ гаворыць!

**На тэму якасці школьнай адукацыі свае меркаванні выказалі і простыя людзі (на форуме «Народнай праграмы», у мэйлах да каардынатараў, падчас вулічных відэаапытанняў, якія выкладаюцца на сайце ініцыятывы):**

*Раней было ўсё прасцей. Цяпер дзеці моцна стамляюцца. У параўнанні з тым, як мы вучыліся, складаныя праграмы.Праграмы кепска ўладкаваны, напрыклад, тая самая матэматыка.*





*У меня сын в 11-м классе учится. Чтобы поступить – нужно нанимать репетиторов.*

*Считаю, что учитель должен зарабатывать минимум столько, сколько средняя зарплата в стране. В том числе и поэтому профессия перестала быть престижной и авторитетной! Мне, к примеру, приходится увеличивать доход, занимаясь handmade-аксессуарами. А мало того, что зарплата – кот наплакал, так еще хватает всякой бюрократической писанины и идеологической пелены. Что касается реформы образования в средней школе, то она давно назрела. Как часть реформ в целом по стране. Реформа в школе, только здесь и сейчас, невозможна!!!*

*Леаніда Гаравога – у міністры адукацыі: вярнуся ў настаўнікі дзеля бясплатных пуцёвак у Еўрасаюз, даплаты за выкладанне па-беларуску, заробку на 20% больш, як сярэдні...*



*Шмат залежыць, да якога настаўніка трапіш...*

*Раньше детям помогали, после школы оставляли заниматься. А сейчас: знаешь – значит, знаешь, не знаешь – до свидания.*



# Еўрапеізацыя школы

Асноўным мінусам і прычынай таго, што сённяшні стан беларускай школы не адпавядае сучасным крытэрыям эфектыўнай школы, з'яўляецца адмежаванасць беларускай сярэдняй адукацыі ад сучасных еўрапейскіх тэндэнцый.

Вось асноўныя з іх, на якія трэба арыентавацца і Беларусі, каб павысіць якасць школьнай адукацыі:

**1.** Далучанасць да агульнаеўрапейскай адукацыйнай сістэмы.Выглядае неверагодна, але факт: Беларусь застаецца ці не адзінай краінай у Еўропе, якая так і не далучылася да Балонскай канвецыі. Акрамя таго, Беларусь не прымае ўдзел у аўтарытэтнай Міжнароднай праграме па ацэнцы адукацыйных дасягненняў вучняў (PISA). Цікава, што міністр адукацыі Беларусі Сяргей Маскевіч, адказваючы на пытанні дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў 17 траўня 2013 года, сказаў, што галоўны адмоўны бок удзелу ў Балонскім працэсе — «вымыванне мазгоў».

**2.** Выкарыстанне кампетэнтнаснага падыходу ў навучанні, калі прадметам ацэнкі, разам з ведамі, становяцца ўменні навучэнцаў.

Пры гэтым выніковасць адукацыйнага працэсу забяспечваецца найперш дзейнасцю саміх навучэнцаў. Таму роля настаўніка павінна заключацца ў кіраванні гэтай дзейнасцю, забеспячэнні цэласнасці вучнёўскай дзейнасці, каб у ёй былі ўсе паўнавартасныя этапы: і пастаноўка мэты, і планаванне, і дзеянні, і самакантроль з самаацэнкай.

Калі ў традыцыйным разуменні чым больш ведаў, тым вышэйшая якасць адукацыі, то кампетэнтнасны падыход скіраваны на тое, каб выпускнікі мелі здольнасці «рабіць справу з веданнем справы».

Ключавыя кампетэнцыі, паводле азначэння, дадзенага ў Рэкамендацыях Еўрапарламента і Рады Еўропы, – гэта сістэма ведаў, уменняў і каштоўнаснага стаўлення, патрэбная для жыцця ў сучасным грамадстве. Да гэтай сістэмы яшчэ дадаецца крытычнае мысленне, крэатыўнасць, уменне вырашаць праблемы,



прымаць рашэнні, уменне кіраваць сваімі эмоцыямі. Іх можна разглядаць як крытэрыі, якія вызначаюць якасць навучання.

Такім чынам, пра магчымыя шляхі выйсця з крызіснага стану, у якім апынулася беларуская адукацыя, можна гаварыць толькі пры той умове, калі беларуская школа стане нацыянальнай па змесце і еўрапейскай па форме.

У сувязі з гэтым асноўнымі напрамкамі рэфармавання сярэдняй адукацыі ў Беларусі неабходна зрабіць.

- далучэнне да Балонскай канвенцыі і рэфармаванне школы ў адпаведнасці з сучаснымі еўрапейскімі адукацыйнымі стандартамі;
- укараненне ў практыку навучання кампетэнтнаснага падыхода. Напрыклад, гэтаму спрыяе стратэгія актыўнай ацэнкі – гэта інавацыйная сістэма навучання, якая фактычна злучае розныя актыўныя метады ў адзіную сістэму работы. Актыўная ацэнка ўяўляе сабой вельмі дзейсны метад павышэння матывацыі і вучнёўскіх вынікаў, асабліва для тых, хто мае праблемы з вучобай. Адзначаецца, што актыўная ацэнка дапамагае вучыцца на працягу жыцця, што з'яўляецца неабходным навыкам у сучасным свеце;
- стварэнне сеткі беларусамоўных навучальных устаноў, каб колькасць вучняў, якія навучаюцца па-беларуску, дасягнула як мінімум 50%. Пры гэтым вельмі важна, каб падобны баланс захоўваўся ў гарадах абласнога і раённага падпарадкавання;
- стварыць грамадскую метадычную раду з уключэннем туды прадстаўнікоў педагагічнай і бацькоўскай грамадскасці, профільных грамадскіх арганізацыяў (Таварыства беларускай школы, Студэнцкага этнаграфічнага таварыства, Таварыства беларускай мовы), якая будзе цесна ўзаемадзейнічаць з Міністэрствам адукацыі у самых розных пытаннях;
- стварыць прафсаюз работнікаў адукацыі, які будзе рэальна адстойваць і бараніць правы настаўнікаў і вучыць іх уменням адстойваць свае правы;
- спрыяць шырокім абменам школьнікаў з установамі адукацыі краіны вывучанай мовы, актыўнаму ўдзелу вучняў у міжнародных тэлекамунікацыйных праектах, праўдзенню ў школах і ў сістэме дадатковай адукацыі мерапрыемстваў на замежнай мове;
- змяніць дзяржаўную праграму па той ці іншай школьнай дысцыпліне, якая не павінна ахопліваць увесь адведзены на гэтую дысцыпліну час, пакідаючы частку гэтага часу на ініцыятыву настаўніка;
- стварыць дзейсную сістэму органаў школьнага самакіравання, напрыклад, Раду, Сойм і Суд школы;
- павысіць прэстыж прафесіі педагога шляхам змяншэння аб'ёму «папяровай працы», зніжэння тарыфнай стаўкі да 18 гадзін і паступовага павышэння заробку настаўнікаў да ўзроўню сярэдняга па рэспубліцы і перспектывай далейшага росту.

Пры гэтым неабходна зазначыць, што ва ўмовах адносна нізкіх бюджэтных датацый і адмежаванасці ад агульнаеўрапейскіх адукацыйных тэндэнцый Міністэрства адукацыі ключавым момантам у рэфармаванні беларускай школы можа стаць менавіта актыўная дзейнасць недзяржаўных арганізацый. Яна магла б быць скіраваная на папулярызацыю найноўшых адукацыйных тэхналогій шляхам правядзення семінараў і майстар-класаў, а таксама курсаў дыстанцыйнага навучання настаўнікаў.

**Юрый КАЛАСОЎСКІ**

# Трывога перад матэматыкай

**Прапануем некаторыя высновы спецыялістаў паводле даследаванняў PISA (Programme for International Student Assessment) – Міжнароднай праграмы па ацэнцы адукацыйных дасягненняў навучэнцаў. Падрыхтавала для Настаўнік.info Тамара Мацкевіч, намесніца старшыні Таварыства беларускай школы.**

PISA даследуе падрыхтоўку 15-гадовых школьнікаў да самастойнага жыцця, наколькі яны могуць карыстацца набытымі ў школе ведамі і ўменнямі. Аднак мэта даследавання – не параўнанне выпускнікоў, а ацэнка эфектыўнасці адукацыйных сістэм і адукацыйнай палітыкі розных краін свету. Тэсты праходзяць тынэйджары, а высновы робяцца пра адукацыйныя стандарты і працу міністраў адукацыі. Можа менавіта з гэтай прычыны беларускія адукацыйныя ўлады выступаюць супраць удзелу Беларусі ў гэтым даследаванні?

У апошніх даследаваннях PISA 2012 прынялі ўдзел 65 краін і адміністратыўных рэгіёнаў (такіх, як Шанхай), што складае больш за 80% сусветнай эканамічнай прасторы. Даследаванні рабіліся ў трох кірунках: матэматычная кампетэнтнасць, чытанне і разуменне тэкстаў і кампетэнтнасць у прыродазнаўчых навуках.

● Калі бацькі маюць магчымасць выбіраць школу для свайго дзіцяці, яны хутчэй за ўсё разгледзяць такія крытэрыі, як «бяспечнае школьнае асяроддзе» і «добрая рэпутацыя школы», чым «добрая паспяховасць вучняў у школе».

● Расслаенне ў школьным навучанні, якое з’яўляецца вынікам палітыкі (пакіданне на другі год, ранняе раздзяленне дзяцей па кірунках адукацыі ці


PHOTO.BYMEDIA.NET

тыпах школ), адмоўна ўплывае на вынікі навучання, і вучні ў моцна стратыфікаваных сістэмах, як правіла, менш матываваныя, чым у сістэмах з меншым расслаеннем.

● Вучні, чые бацькі ўскладаюць вялікія надзеі на іх, маюць чаканні, што іх дзеці атрымаюць вышэйшую адукацыю і ў будучыні будуць працаваць на кіраўнічых пасадах ці рабіць прафесійную кар’еру, як правіла, больш настойлівыя, больш унутрана матываваныя да навучання матэматыцы і больш упэўненыя ва ўласных здольнасцях у матэматыцы, чым вучні з аналагічным сацыяльна-эканамічным статусам і акадэмічнай паспяховасцю, але чые бацькі маюць менш амбіцыйныя чаканні адносна іх.

● Чым лепшыя стасункі паміж вучнямі і настаўнікамі ў школе, тым большая заангажаванасць вучняў у навучанне.

● Адна з прычын нізкай самаацэнкі вучняў – гэта трывога перад матэматыкай. Каля 30% вучняў паведамілі, што адчуваюць сябе бездапаможнымі, калі робяць заданне па матэматыцы: 25% хлопчыкаў, 35% дзяўчат; 35% слабых і 24% здольных вучняў паведамілі, што адчуваюць тое самае.

● Нават, калі дзяўчаты выконваюць тыя ж матэматычныя заданні, што і хлопчыкі, яны, як правіла, праяўляюць менш настойлівасці, менш жадання да рашэння задачы, менш унутранай матывацыі да вучобы, менш веры ў сябе, у свае здольнасці да навучання матэматыцы, чым хлопчыкі. У сярэднім яны часцей за хлопчыкаў звязваюць няўдачы ў матэматыцы з сабой, чым са знешнімі фактарамі.

● Дзеці Паўднёвай Карэі з’яўляюцца найменш шчаслівымі ў школе, а таксама яны маюць адну з самых высокіх паспяховасцей. Самыя шчаслівыя школьнікі, паводле дадзеных, сабраных PISA, жывуць у Інданезіі і Перу. Яны маюць найгоршыя вынікі ў свеце.

● Фінляндыя па-ранейшаму займае першае месца сярод еўрапейскіх краін у прыродазнаўчых навуках і чытанні. Аднак у матэматыцы фіны саступілі свае пазіцыі адразу чатыром краінам: Ліхтэнштэйну, Швейцарыі, Нідэрландам і Эстоніі. Самы вялікі рывок па ўсіх кірунках зрабіла Польшча і Германія. Польшча заняла 3-е месца па чытанні і прыродазнаўстве і 6-е па матэматыцы сярод 35 краін Еўропы. Добрыя вынікі сярод посткамуністычных краін змаглі атрымаць толькі тыя, якія сканцэнтраваліся на сучаснай метадычнай падрыхтоўцы і стымуляванні працы настаўнікаў.

● Расійская школа, на якую дагэтуль арыентуецца наша краіна, застаецца несучаснай. Расійскія школьнікі пакуль не дэманструюць высокіх дасягненняў ва ўменні прымяняць школьныя веды ў жыцці, аднак іх функцыянальная пісьменнасць – матэматычная, чытацкая і прыродазнаўчая паступова расце, што эксперты звязваюць з «эфектам развіцця пакаленняў», а не з фармальнай адукацыяй. Пры гэтым застаюцца праблемы са школьнымі падручнікамі і падрыхтоўкай настаўнікаў, лічыць віцэ-прэзідэнт Расійскай акадэміі адукацыі. На яго думку, дапамагчы можа ўкараненне новых стандартаў для асноўнай школы, распрацаваных у «кампетэнтнасным» і «дзейнасным» падыходзе, а не ў духу «вывучы – запомні – паўтары». «І калі школа рэальна, а не на паперы, пяройдзе на новыя адукацыйныя стандарты, расійскія вынікі ў даследаванні PISA стануць значна лепшымі», – падкрэсліў эксперт.

Бюлетэнь выдаецца Рухам “За Свабоду”. Наклад 299 ас. Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі бясплатна.
Падпісана ў друк 30.12.2013 г. Кантакты Рэдакцыі: тэлефон: (+37517)2808863, е-пошта: info@pyx.by